# ЗЬМЕСТ.

# Аршанскі МАЛАДНЯК

Орган Аршанскае філіі Ўсебеларускага Аб'яднаньня Поэтаў і пісьменьнікаў — МАЛАДНЯК. —

2-гі год выданьня.

№ 1 (3) | СТУДЗЕНЬ | 1926.



Аршанская філія Усебеларускага аб'яднаньня поэтау і пісьменьнікау Маладняк, стаючы на варце утвараньня пролетарскай культуры, шчыра вітае ідэолегічнага кірауніка і удзельніка у заснаваньні Аршанскай філіі—Другую Акруговую Конфэрэнцыю Ленінскага Комуністычнага Саюзу Моладзі Беларусі.

Комсамол у сваіх шэрагах выкоувае, крышталізуе пролетарскую думку. Комсамол адна з крыніц для творчасьці Маладняка.

Пры далейшым цесным супрацоуніцтве с комсамолам, пад кірауніцтвам партыі, Маладняк Аршаншчыны зможа зьдзейсьніць свой абавязак перад працоунымі масамі.

Няхай жыве і шырыцца Ленінскі Комсамол.

**Бюро філіі**

Дзяніскевіч.

# Комсамол і Маладняк.

У працягу гэтага году ўтварыўся пры пепасрэдным удзеле комсамолу „Маладняк“.

Комсамол, зьяўляючыся масавай палітычнай організацыяй, якая вядзе працу ў самых закінутых куткох вёскі, мае аднэй з сваіх мэтаў дапамагаць партыі ў справе палітычна-культурнага росквіту вескі, і, вядома, што гэтакая організацыя, як „Маладняк“ будзе падтрымана з нашага боку і заслугоўвае увагі, асабліа цяпер, калі запатрабаваньні як рабочай, гэтак і сялянскай моладзі нябывала ўзрасьлі, гэта відавочна нам з той актыунасьці, якая зварушыла ўсе соцыяльныя групы моладзі нашай Акругі—„Маладняк“ мае мэтай закінуць у ячэйку, у школу літаратурныя творы, якія адаказвалі-б задачам выхаваньня ў комуністычным напрамку, бо цяпер мала даць моладзі сход, упарадкаваць працу політгуртка-неабходна гэта зьвязаць з задачай здавальненьня культурных імкненьняў моладзі.

Трэба прасунуць „Маладняк“ бліжэй да заводу, з апошняга выцягнуць шэрагі рабочых пісьменьнікаў.

Наша акруговая філія „Маладняк“ ужо змагла крыху даць у агульную скарбніцу адраджэньня беларускае культуры, на далейшы час забясьпечым дапамогу і кіраўніцтва ў разьвіцьці Маладняка. У кожным раёне павінны быць маладнякоўцы, кожная ячэйка павінна мець маладнякоускія выданьні. Вось практычныя задачы.

Наша організацыя цераз Маладняк павінна вылучаць шэраги маладых інтэлегентаў здольных разумець і праводзіць працу у партыйным напрамку.

У Маладняк неабходна ўцягваць і інтэлгегэнтау, атрымаўшых выхаваньне ў старых умовах, з мэтай, каб пры нашым уплыве, творчасьць накіраваць у пажаданым напрамку, адгэтуль задача: ядналньне ў Маладняку нашых комсамольскіх пісьменнікау, якія ёсьць ужо й якія нарастаюць.

У справе беларусізацыі маем першыя посьпехі і выйшлі на шлях практычнае працы ў гэтым напрамку. Пашыраючы распаўсюджваньне выданьняу Маладняка нават праводзячы вечары апошняга-будзем садзейнічаць справе беларусізацыі.

Комсамол цераз Маладняк павінен несьці ў рабоча-сялянскія гушчы моладзі ідэі Ленінізму, пролетарскага уплыву ва

ўсей працы, забясьпечваць комуністычнае кіраўніцтва над актыўнасьцю моладзі.

Бязумоўна, шт ) пад кіраўніцтвам партыі, комсамолу Маладняк будзе займаць і ў далейшым значнае месца ў культурным адраджэньні нашай акругі.

............

В. Сташэўскі

## Яны ідуць...

*(Прысьвячаю 2-ой Аршанскай Акруговай конфэрэнцыі ЛКСМБ)*

Радамі моцнымі ідуць,
Іх знамя агняцьветнае.
Іх мэта—іскаркі разьдзьмуць,
У полымя сусьветнае.
За дні Кастрычніка Вялікага,
Ідуць аднэй сямёй.
Іх постаць многалікая,
Стаіць стальной сьцяной.

То новая, Вялікая сьцяна.
У моры бурным мол.
Нічым нязломная яна,
Завецца—Комсамол.
Ці то з-пад шэрых хат.
Ці з фабрык дымных...
Адзін другому—родны брат
Адзін насецца гымн.

Радамі моцнымі ідуць,
Іх знамя агняцьветнае.
Агонь Кастрычніка разьдзьмуць
У Полымя сусьветнае.

*2-га студзеня 1926 г.*

............

Кляшторны

## Акруговаму зьезду Комсамола.

Дні зьнікаюць, як дым ў беспрадоньне,
Куламесіць жыцьця вадаспад,
Што было, то ня будзе сягоньня,
Не вяртаецца жыцьце назад...
Помню, было здаецца ў дваццатым,
Я лапцямі сугробы таптаў,
Пераходзіў ад хаты да хаты,
Залічыцца ў камол запрашаў..
Дзьвесьці вёрст не бальшая дарога,
Абы лапці былі на нагах,
Хай мяцеліца бура--нічога,
Як ў вагні растапляецца страх.
Лепіць ў вочы мяцеліца пухам
Буйны вецер і зол і вясёл,
Завывае ў сьнягох завіруха,
А ў душы бурапеніць камол...
. . . . . . . . . . . . . .
Завіхурылі дні вераніцай
Дзень за днём
Дзень за днем
Чарадой

Сёньня новаю сілай крынічым
Мы над вымытай кроўю зям-
лёй.
Сёньня новым усе тараторыць
І лунае задор маладых,
Навет вецер і то комсамоліць,
Над далонямі вуліц сырых...

Дні зьнікаюць, як дым ў без-
прадоньне.
Куламесіць жыцьця вадаспад
Што было, то ня будзе сягонь-
ня—
—Не вяртаецца жыцьце назад.

ВОРША

1 студзеня 1926 г.

............

Уільлям Шэкспір

# Сон летняе ночы.

III дзея. 2 сцэна
(адрывак)

*Дэмэтры* Навошта ты адпіхваеш мяне,
як ворага ліхога ад сябе?

*Гэрмія* Цяпер я толькі лаю, але горш
павінна я табою зьневажаць,
бо ты прычыну даў мне праклінаць.
Калі забіў Лізандра ты ўва сьне,
ужо ў крыві па горла, лезь і глыбей—
забі й мяне.
Дню сонца вернасьці такой ня мае,
як мне быў верны ён; ці ж тобывае,
каб ён уцёк ад соннай Герміі?—не,
Скарэй паверу, што прасьвідраваць
зямлю навылет можна, і што месяц
працісьнецца праз цэнтр, каб засмучаць
свайго сябра дзяннога й антыподаў.
Не, не, табе забіць было ня шкода
яго: такім заўсёды выглядае
забойца, гэтакі ён утрупелы,
Страшэнны гэтакі і тварам белы.

*Дэмэтры* Такім выглядвае забіты, й я
такім павінен выглядзець, прабіты
праз сэрца хмурага акрутнасьцю
тваёю. Але-ж ты, забойца мой,
выглядваеш так ясна і так чыста,
як унь Вэнэра, што глядзіць празрыста.

*Гэрмія* Што сталася з маім Лізандрам? Дзе ён?

Дэмэтры міленькі, аддай яго мне.

*Дэмэтры.* Ахвотней-бы аддаў яго сабакам.

*Гэрмія* Вон погань, вон псяюха, ты выводзіш
мяне за рубяжы дзявоцкае
цярплівасьці. Забіў ты, ліхадзей?
Каб ты больш ня лічыўся між людзей.
О, толькі раз скажы ты праўду, толькі
адзін хоць раз, дзеля мяне скажы...
Ці сьмеў ты глянуць на яго, як быў
у сіле ён, ты соннага забіў?
Які удар адважны! Ці-ж чарвяк,
ці-ж гадзіна зрабіць ня можа так?
Зрабіла гэта гадзіна, я бачу,
але табе, вужака ты, зазначу,
што нават гадзіны двайное жала
абманьней за цябе не абражала.

*Дэмэтры* Дарэмна сыплеш гэтак сваю злосьць:
не вінават ў Лізандра крыві я,
і не памёр ён, як здаецца мне.

*Гэрмія* Прашу цябе, скажы мне толькі праўду,
дзе ён і што? ці ён жывы, ці не?

*Дэмэтры* А што дасі за гэта мне ў нагараду?

*Гэрмія* Цябе я збаўлю ад свае асобы,
сыйду я ад цябе, як ад хваробы.
Ці ён жывы, як кажаш ты, ці не,
а толькі ты ня ўбачыш больш мяне.

*(выходзіць)*

*Дэмэтры* Ня йсьці-ж за ёй пры гэткім нораве.
шалёным; мабыць тутака застацца
мне прыдзецца пакуль што на хвіліну.
Так цяжар гора нарастае болей
дзеля даўга, што сон банкрутны вінен
яму, мо хоць што-небудзь атрымаю,
калі яшчэ і тут я пачакаю.

*(лажыцца)*

з ангельскай пераклаў **Ю. Гаўрук.**

18/хіі 25 г. Горкі.

............

*Прысьвячаю маёй настаўніцы*
*Р. ЭПШТЭЙН.*

Кляшторны.

# Праз куламесіцу часу.

I.

Сьлізка ліпкая ноч. Цярушаць у пацёмках мокрыя камкі сьнегу. Агарнуліся нейкім таёмным сполахам муры. Вецер ні шалахне. На каланчы біла дванаццаць гадзін. Наставіўшы каўнер, я йшоў амаль што па пустой вуліцы. У вакна аднаго магазыну я параўняўся з закутанай і аблепленай сьнегам дзяўчынай. Ішоў я ціха, амаль нічога ня думаючы. Дзённая праца, беганіна награмадзіла столькі вобразаў, столькі малюнкаў, што мая памяць ляніва абходзіла іх, перанёсшыся ў мінулае, ня кратаючы гэтых узорных перажываньняў дню.

Калі дзяўчына кінула на мяне погляд, я абмер. Памутнела цёмная ноч. Як з прадоньня вечнасьці выплылі туманам прамільгнуўшыя дні. Моўчкі цісну яе руку... Маўчу.... Маўчыць і яна. І ноч маўкліва, ніводнага шолаху. Стукае сэрца, а думкі варочаюць мінуўшчыну. . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

II.

Асеньні сонечны вечар. У суседнім маёнтку ігрышча...грымяць цымбалы. На лавачцы, пад пазалочанымі клёнамі, я знаёмлюся з Марысяй... Доўгі, з ружовай афарбоўкай на захадзе, асеньні вечар....

Ясна—томна, з нявыказна-таёмна-смутным натхненьнем глядзяць зоры.

Марысіны вочы, як дзьве зоркі, казытаюць мне сэрца. Я адчуваю блізасьць к ёй і прыгарнаю яе да сябе, хмялеючы і ноччу, і зорамі, і Марысяй... У возеры зашлёпала шчука...

— Ліха ведае, жывём па суседзтву, але вось так ніколі... Яна не дагаварывае.

— Але, кажу я ёй, я хоць сабе даўно... у гэту хвіліну з боку маёнтку пачулася: „Стой! Стой!“... Марыся задрыжэла і ў няпрытомнасьці кінулася ў бок. Я яе падтрымаў...

Рукі ў гору... на нас холадам зірнула некалькі стрэльбаў.

Нас абшукалі і пад наглядам чырвонаармейцаў накіравалі ў маёнтак..

Далёка на ружовым небасхіле закату мільгануў агоньчык

і, нібы гром, пачуўся працяжны гук гарматы.

Сівая ноч падхапіла яго і пакаціла ў вільготныя далі жудасным рэхам.

Забілася сэрца, думкі мімаволі панесьліся ў тыя земляныя норы, над якімі толькі што з рогатам пранёсься голас сьмерці....

Расчыніліся дзьверы... —Вашы дакумэнты, зьвярнуўшыся да нас, холадна прабурчэў чалавек у шэрай шынелі. Я палез у кішэню. Марыся замялася: ,,якія ў мяне дакумэнты... я... я жанчына... я тутэйшая, тут недалека мая хата....

Праз хвіліну нас аслабанілі. З гутаркі канваіраў я даведаўся, што на йгрышчы былі бандыты.

III.

Пакаціліся дні... Кожны вечар я хадзіў к Марысі на спатканьне. Вецер шалясьцеў лісьцямі, ускудлачваў шэрыя хвалі на возеры, якія з пенай каціліся з змрочнай далі і з рогатам кідаліся ў бераг.

Доўгая цёмная асеньняя ноч. Вандруе вецер. На паўзьлесьсі галосяць совы. Злуюцца хвалі на апранутым туманам возеры. А на захадзе пераліўна ракочуць гарматы.

Адзін раз у змрок я сядзеў на ўмоўленым месцы, чакаючы Марысю. Яна чагось ня прыходзіла — Няўжо ня прыдзе, мільганула думка і ад нецярплівасьці я паліў адну за другой папіросы.

Каля возера пачуліся крокі, адкуль з змроку выплыла фігура Марысі..... — А я ўжо думаў, што ты ня прыдзеш.

— А ці гэта абявазкова—пажартавала Марыся.

— Хай сабе не абавязкова, можам і ня прыходзіць.

— Ай не, не! — Яна абшчапіла маю шыю і пачала пяшчотна гладзіць маю шчаку.

— А скажы, Міхась, што нас прымушае сюды хадзіць?

— Я думаю ты вышла з дзіцячага ўзросту, трэба кінуць і дзіцячыя запытаньні.

— Яно так, але... ў яе васільковых вачох заблудзілася смута, цяжка ўздыхнуўшы, яна дадала:

— Ты комсамолец, дзе табе да мяне, нас толькі і зьвязываюць гэтыя п'яныя вечары.

— Кінь!... ты ня можаш глядзець на сьвет адчыненымі вачыма... Ты не жанчына новага жыцьця.

— Дзе мне да вашага новага, я не хачу раўняцца з гэ-

тымі стрыжанымі жанчынамі гораду, згубіўшымі ўсякі сорам. Я нэрвова падняўся, але Марыся павісла ў мяне на шыі.

— Кінь, кінь—загаманіла яна, нам зараз добра і нечага разважаць.

Хвіліну задумалася.

— Ты мяне не разумееш, Міхась, я згодна на ўсё, я цябе кахаю, але ты ня ведаеш мае маці. Ох, дастаецца мне за нашы спатканьні...

Яна не дагаварыла.

— Скажы, Міхась, што ты думаеш рабіць, што выйдзе з нашага каханьня?

Я сьціснуўшы руку кажу ей рашуча:

— Ты будеш маей, зразумела?

— Не, Міхаська, я ў гэта ня веру.... гэта толькі можа быць тады, калі ты выйдзеш з комсамолу і згадзішся яшчэ на нешта....

Цудоўная ты дзяўчына, хіба ты ня ведаеш, што я гэтага не зраблю, але й навошта нам браць такія крайнасьці. Ведаеш што, мы можам абысьціся без бацькоў.

Марыся цяжка ўздыхнула і прытуліла галаву к маім грудзям....

IV.

На другі дзень у змрок я ціха йшоў па знаёмай сьцежцы. На краі гаю я знашоў Марысю. Яна сядзела на кучы гальля, схіліўшы галаву на рукі, і ціха плакала.

Падкраўшыся бліжэй, я крануўся яе пляча... Яна задрыжэла, кінулася ка мне. Я спалохаўся... Ня ведаючы што рабіць, моўчкі прыгарнаю яе да сабе.. Гарачыя сьлёзы Марысі здавалася раняць мне сэрца... Яна нешта кажа, але я не магу, распазнаць яе слоў...

— Міхась!... наша спатканьне апошняе...але я, я цябе кахаю.. я ня вытрываю, я не перанясу... Ідзі, ідзі адгэтуль, мне будзе лягчэй.... Яна зноў заліваецца сьлязьмі, шчыльней прытуляючы галаву да маіх грудзей.

Я адчуваю ў сваей вошчупі цёплае жаночае цела, якое павісла ў мяне на шыі і разрывае сваю душу сьлёзна-балючай журбой.

У галаве незразумела гудуць словы: „апошняе спатканьне, ідзі, ідзі адгэтуль„. Вецер загаласіў у гальлі цёмнага гаю, ... Мне ... зрабілася балюча...

Недалёка ад нас пачуліся крокі. Па дарозе за хмызьняком праходзіла ўзброеная грамада людзей. Хоць сабе ў гэты час бачыць узброеных людзей было ня нова, але ўсё такі мной апанаваў нейкі сполах. Марыся сьціснула мяне за руку, даючы ведаць, каб я нічога не гаварыў.

Наступіла маўклівая хвіліна...

Чорныя змрокі навісьлі на хвойніку і аб чымсь-та жудасным шапталіся.

— Я йду, ужо час, даведаецца маці,—сказала Марыся, калі прайшла ўзброеная грамада.

— Я цябе праводжу.

— Не, ня трэба. Яшчэ сустрэнем каго,—даведаюцца. І, пацісьнуўшы руку, яна шпарка накіравалася ў бок маёнтку.

Мне зрабілася непамысна, я ня мог зразумець, што азначалі гэтыя сьлёзы, што прымусіла яе хутка пайсьці: успомніўшы, што заўтра ўвечары я павінен паехаць у павет, нешта балючае падступіла мне пад сэрца. Ціха расхінаючы хмызьняк, я вобмацкам пайшоў да дому.

Назаўтра ўпоўдзен, вярнуўшыся з працы, я ў сваёй хаце застаў Марысіну матку. Першае маё запытаньне было к ёй:—ці дома Марыся.—Ды дзе ж ёй быць, як ня дома.—

Я задумаўся, учорашняя ноч чым-та незразумелым дыхнула на мяне.

— А што гэта вы, Міхась, ніколі ня зойдзеце да нас хоць-бы калі ўвечары....

— Шчыра дзякую, неяк часу малавата.

— Усе ў вас час, кіньце вось сваю камунію, дык і час, знойдзеце, з камуніі хлеба есьці ня будзеце. . Мая Марыся надовень казала пра вас: „Я, кажа, не паважаю камуністых, але вось Міхася я не магу не паважаць, ён такі добры, далікатны і зусім мусіць памылкова ўвайшоў у гэту самую камунію. Як вы глядзіце на гэта“?....

Мне зрабілася няпрыемна, я маўчаў..., Мая старая маці пачала спрачацца з ёю за камуністых, пачала браць прыклады з часоў паншчыны, з наступленьня палякаў і так далей. Паміж імі завязалася сварка і ўрэшце яна маю маці абазвала мужычкай, а маці яе-шляхцянкай... Я надзеў шапку і вышаў... Калі я зноў вярнуўся, то Марысінай маці ня было, мне зрабілася шкода, што я не паведаміў Марысю аб сваім ад'ездзе-

V.

Першая мяцеліца аблеплівала палатно чугункі. Марозны вецер раззлаванна шкаматаў вопратку і, здавалася, да сэрца даставаў халоднымі іголкамі. Каля маленькай станцыі сабралася куча народу, чакаючы цягніка. Парушаючы цішыню зьвярыным рыканьнем і кідаючы ў халоднае паветра клубкі дыму, падыходзіў цягнік. Натоўп рынуўся к цягніку і яшчэ на хаду пачалі садзіцца, з бойкай і штурханінай адваёўвалі месцы. Калі я ўвайшоў у вагон, цягнік ужо крануўся з месца. Моўчкі, ўсеўшыся каля вакна, я пазіраў, як зьнікалі ў туманнай далі хмызьнякі й балоты.

У вагоне было цёпла. Нейкая сумота апанавала ўсей маёй істотай... Некалькі тыдняў я ня бачыўся з Марысяй. Зусім нечакана я атрымаў камандыроўку ў партшколу. Баючыся спазьніцца, я не зайшоў да Марысі. Апошняе наша спатканьне нейкімі абцугамі ціснула маё сэрца. Я шмат чаго не разумеў... Я страшэнна хацеў зараз бачыцца з Марысяй, але цягнік усё далей і далей унасіў мяне ад роднай вёскі і ад Марысі.

VI.

Як сівыя коні панясьліся дні.... У каменным рокаце гораду загінула мая журба. Я вучыўся ў партшколе. Дзень пачынаўся лекцыямі і канчаўся мітынгамі, або пасяджэньнямі... Змораны, прыходзячы дамоў, я наскара праглядваў газэту й засыпаў... У салодкіх лятуценьнях сну я бачыў новае нараджаючаяся жыцьце, узбудаванае сіламі моцнага колёктыву саміх працоўных.

Адзін раз, прышоўшы дамоў, я знашоў на стале ліст. Ліст быў ад сястры.

Расьпячатаўшы канвэрт, я прачытаў наступныя словы:

*Дарагі брацец!*

Учора а 12 гадзіне ночы быў забіты Алесь. Забіты ў хаце Ядвігі (таварышкі Марысі) бандытамі. П р а з некалькі дзён пасьля твайго ад'езду ён запісаўся з гэтай самай Ядвігай, але цёмных спраў яе ня ведаў. Учора ўвечары ён заходзіў да нас і мусіць па прымусу жонкі запрашаў цябе ўгосьці. Даведаўшыся, што цябе няма, хутка пашоў, а к раніцы быў забіты... Жонку яго заарыштавалі і... замігацела ў ваччу... Марысю ў гэты вечар нехта бачыў у гаі над возерам, як яна сядзела і плакала... Узялі на дапрос і Марысю.

Цяпер я зразумеў... цяпер для мяне сталі зразумелы апошнія словы Марысі і ўзброеныя людзі і што азначаў дыплёматычны падыход ка мне яе маці... Ні Марыся, ні маці, напэўна ня ведалі аб маім ад'езде і зараз мусіць мне рыхтавалася тое, ад чаго перасьцерагала мяне Марыся словамі: ідз ідзі адгэтуль.

Мне стала шкода Алеся. Мной апанавала нейкае незразумелае пачуцьцё... Здавалася, што Марыся ня прычасна к гэтым цёмным падзеям...

І ў гэты час мне да болю стала шкода Марысі... Я разумеў, што ня ўласны сьветагляд, ня ўласнае абурэньне на новае штурхалі яе на гэты шлях. Яна заграза ла ў акаляючай яе багне, ня маючы выйсьця... Ці вінавата курыца, якая не магла пераступіць рысу, нарысованую крэйдай? Не, папершая яна курыца, а рысу правяла не яна, а іншая сіла. Марыся не вінавата...У гэты час у мяне к ей выказаўся ўвесь імпэт каханьня... Мне хацелася яе ратаваць... Але ўжо было позна.

VII.

Прашло пяць гадоў. За гэты час я ні разу ня быў у роднай вёсцы. Дзе зараз была Марыся і што з ею я не ведаў... Спаткаўшыся з ёю выпадкова на вуліцы, сотні вобразаў мільганула ў маёй галаве. Я ўвесь аслупянеў, ня ведаючы што ей сказаць. Першая пачала Марыся:

— Авось з табой, Міхась, я ніколі ня думала спаткацца. —

— Чаму? Кажу я ей.

— Ня пытай, Міхась, ты ведаеш чаму, ты ўспамінаеш мне мінулае, але... мне балюча глядзець на гэта мінулае, я ўтапіла яго ў нейкай гразі, я прамяняла яго на сучаснае, а на што, дагадайся?. .

Я зьдзіўлена паглядзеў ёй у вочы.

— Чаго ты глядзіш? —

Я перамяніў гутарку: скажы, Марыся, як ты папала у горад?

— А табе ня ўсёроўна... Долю шукаць.. вось і нашла долю... Сеньня я начую ў аднаго знаёмага, заўтра ў другога, а там... Яна прарвала гутарку і цяжка ўздыхнула.

— Што ты кажаш, Марыся, што з табой?

— А тое кажу, што ты чуеш.

— Памятуеш, Міхась прадапошняе наша спатканьне, калі табе гаварыла, што я зьневажаю гарадзкіх распусных кабет,

а цяпер я ад душы ненавіджу такіх наіўных, якой я была ў мінулым... Я ўтапіла сваю душу й цела і мінулае ў гэтай камяніцы вуліцы .. Толькі развважаючы пра гэта, нешта балюча робіцца... У мяне няма заўтра, загінула і ўчора, жыву нейкім пракіслым сягоньня...

— А ты даўно папала ў горад?

— Цяжка мне гаварыць пра гэта... Былі часы, я развважала... Я пужалася сябе як здані.. А цяпер нічагусенькі .. Заплюснуўшы вочы я йду ў заўтра... Іду як брудная сабака... Цяжка жыць, так-жа цяжка, як мець нячыстае сумленьне... Былі часы, я верыла ў каханьне, верыла і кахала, кахала цябе, а зараз кахаю таго, у каго ў кішені бражджыць, іду туды куды вецер падзьме... Я задрыжэў і зьдзіўлена паглядзеў у яе халодныя вочы.

— Ня дзівіся, хочаш скажу, ад чаго я папала на гэту вуліцу... У нашай хаце кватаравалі бандыты, я табе пра гэта нічога не казала, мая маці была у іх даношчыцай, мне было загадана перацягнуць цябе у іх шайку, я гэта рабіла, рабіла пад уплывам моладасьці. ня думаючы, добра гэта, ці кепска. Калі убачылі, што ты ня згодзен, цябе хацелі забіць... Забілі Алеся... Я адчайвалася, хацела кінуцца ў возера... Нас арыштавалі... У сырых мурох турмы памёрла маці... Я яе не шкадую... Увесь час я марыла аб табе, марыла і саромелася, ня ведала, як я табе пагляджу ў вочы... Выпусьцілі... Я патанула у гэтай вуліцы, каб утапіць сваю балючую тугу... Утапіла душу і цела і... і зараз я прастытутка, зразумеў?

Халодныя мурашкі забегалі па целе... Пацямнела ў ваччу...

З песьнямі з рабочага клюбу высыпалі комсамольцы... Срэбраным струменьчыкам паліліся іх галасы... Малады мір заліваўся шчасьлівым задорам... Я успомніў Марысю, калі яна блізка і падобна была да гэтых комсамольцаў. Прайшоўшы праз прызму гадоў яна зьбілася з шляху і паплыла па хвалях як нешта раскіслае... Мне стала агідна яе бачыць і, адначасна, чамусьці мне было яе шкада.

— Міхась, паклікала мяне адна комсамолка. Я кінуў Марысю і патануў у грамадзе комсамольцаў. . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...........

Арывон Куст

# Н о ч ч у.

(вобразы)

Зоры ў небе сінім крышталілі
адрываліся ніклі кудрысьці,
змоўкла ўсё, толькі часам шаптала
расою залітае лісьце.

Маладзік узышоў зазірнуў на паляну
ды й у воўну хмару схаваўся,
а у нізе, ў лахчыне туман
барадою сіваю слаўся.

* *
*

Зоры ў небе імжаць,
зоры кропкі гараць,
зоры ходзяць, блудзяць пад борам;
маладзік глядзіць
маладзік глядзіць
маладзік усьміхаецца зорам.
А ў бары цішыня,
Хруснаў сук..
Цішыня...
Ды кугакае дзесьці лягушка.
Дрэвы моўчкі стаяць,
невядомае сьняць
у цішыні затанулі макушкамі
Зоры ў небе імжаць,
зоры кропкі гараць,
зоры весяла ходзяць над барам;
маладзік глядзіць,
маладзік глядзіць,
маладзік закахаўся у зоры.

............

В. Ст.

# ШЭРЫМ ГУСЯМ.

*Прысьвячаецца некаторым з эмігрантаў.*

Як казаў вам, шэры гусі,
Як ляцелі ў вырай вы:
А куды-ж вы з Беларусі.
Ці-ж дадзелі нашы рэчкі,
З асакою паплавы.

З каршунамі вы ляцелі,
Уздымалі ўсе трывогу,
А падумаць не хацелі,
Ці-ж адна ў вас пуціна,
Ці адна у вас дарога.

Каршуны—ня нашы птушкі,
Хай ляцяць аж к ліхай долі!
Іх пужае чырвань стужкі,
Што да сонца узьнялася
І пакрыла наша поле.

Хай баіцца колер чорны
Прамяністых жалаў стужак,
Але ж вам быць непакорнымі
Не магу ніяк згадаць я,
Бо вы-ж шэры, шэры птушкі.

. . . . . . . . . . . . . . . .

І падула жарам-ветрам
Ад поўначы, усходу
І ня стала цёмнай нетры.—
Засьвяціла сонца ясна
Стала на пагоду.

Там вам холадна, я бачу,
Дрэнны выраю быў час,
Хоць шкада, але не плачу,
Бо казаў вам, шэрым гусям:
Куды гоніц, гускі, вас?

••••••••••••

Я. Сявец.

* * *

Месяц злодзеем глянуў з за вольхі,
Загарэўся расой па атаве.
А хацеў я касіць яшчэ столькі,
К заўтру думаў пракосу ня стане.

На калёсы асокі з чаротам
Налажыў і патонуў у сене;
Пакуль к вёсцы праеду балотам
Змрока холадам плечы адзене.

І аб купіны ляскаюць колы,
На усходзе мігнула зарніца,
У спакою, у думках паволі
Раньне з новым пракосам мне сьніцца.

.............

В. Сташэускі

# На другі дзень.

п'еска у 1 дзеі з часоу 1920 г.

*А с о б ы:*

1. *Андрэй*, 12 гадоу, з рашучым характарам.
2. *Васілёк* 11 г.
3. *Гаўрык* 13 г.
4. *Ясь* 9 г.
5. *Зоська* 9 г.
6. *Сенька*, крывы, 12 г., кульгае, ня выгаварвае „р“
7. *Баба* 35 г.
8. *Старац* 65 г.

2 ці 6 іншых хлапчукоў

Усе пасуць жывёлу.

Дзея адбываецца на беразе ракі Нёмну, каля лесу на другі дзень, як прагналі белапалякаў. Яшчэ дыміцца мястэчка, падпаленае легіянэрамі. Пастушкі ўсе паначаплялі чырвоныя істужкі

I

*Раніца, усе пазіраюць на мястэчка на пні стаіць хлопчык Васілек*

Васілёк. І там яшчэ дым, і там вунь... Вунь высокія каміны тырчаць здаецца Шпакоўскіх.

Гаўрык. Не, гэта не Шпакоўскіх, гэта бліжэй сюды пад Макара.

Васілёк. Як пад Макара? Вунь жа высокія грушы іх, а там папоў дом відаць.

Ясь. Нябось паповага й вураднікавага дому не падпальвалі.

Васілёк. Яшчэ будзе работы мужчынам пакуль пазалівають усе папялішчы.

Андрэй. Я не магу глядзець, на усе гэта, каб сілу меў не стаяў бы я тут з вамі, пашоў бы з чырвонаармейцамі на Варшаву, рэзаў бы здаецца ўсіх.

Сенька крывы. А думаеш мы стаялі б тут? усе пайшлі б

Васілёк. Куды б ты пашоў крывы?

Сенька. От каб вялікі быў і пашоў бы.

Гаўрык. Чыкіляў бы цыганчык свой ухваціўшы.

Сенька. Цыганчык... Вінтоўку ўзяў бы, альбо кулямёт!

Андрэй. Эх, з кулямёта я б іх здаецца так і скасіў бы.

Васілёк. Нехта йдзе сюды паўзь бераг

Усе. Дзе?

Андрэй. А, гэта Зоська Аляксейчыкавых, так і ёсьць яна, з падвязанай галавой.

Сенька. Чаму з падвязанай?

Гаўрык. От ня ведае чаму. Іх хата гарэла, а яна бегла з прыгуменьня, каб што вынесьці, а легіянэр прыкладам вінтоўкі ёй у галаву, дык яна й брыкнула, бяз памяці крыху ляжала.

Сенька. Дык добра, што жыва засталася, а Пікусаву дзяўчу дык на сьмерць штыкамі закалолі.

Андрэй. Ну хіба я ня вырасту.. Ідзе Зоська

(*галава падвязана*)

Васілёк. Ну што Зоська, чырвоноармейцы пашлі ўжо?

Зоська. Тыя пашлі, але другія прышлі многа, многа, зноў казалі, што не даруюць легіёнам за пажар, і так сама казалі, даёш „Варшаву"

Ясь. А вун і старац нейкі йдзе. Няужо ён думае, што нехта яго дарыць будзе цяпер.

Гаўрык. Самі старцамі засталіся.

Сенька А ён можа ня ведае, што спалілі мястэчка, ды йдзе.

Андрэй. Чакайце, я яго запытаю.

Ясь. А можа гэта шпіён які польскі, йдзе, старцам прыкінуўся.

Усе. Але мусіць шпіён.

Андрэй. Які шпіён? А калі такі стары шпіён, то я з ім тут разьлічуся сам, хай толькі прыдзе бліжэй. (*усе глядзяць*)

Васілёк. Не углядайцеся так, а то спужаецца, ды не падыдзе

Андрэй. Ціха, падыдзе, ідзе. Но, маўчэце, я буду пытацца.

Старац. Добрага здароўя дзеткі.

Усе Здароў дзед.

Гаўрык. Ты куды ідзеш дзядок?

Андрэй. (*скоса паглядзеўшы на Гаўрыка*). Ты дзед адтуль ідзеш? (*паказвае на захад*)

Старац. Адтуль сынок.

Андрэй. А якой ты веры?

Старац. А на вошта ты пытаеш, галубок?

Гаўрык. Ён хоча ведць, ці паляк вы.

Андрэй. От дурань які!

Старац. Ну, а калі я паляк, дык што?

Андрэй. Як што? усё мястэчка спалілі, людзей пабілі ды яшчэ што?

Старац. Хо, хо, хо... Я разумею вас дзеткі, але як вы думаеце такія палякі, прымерна вот як я будзе паліць вас ці забіваць? (*усе маўчаць*). Вот я прымерна паляк і пан ваш паляк, як вы думаеце роўныя мы ці не?

Сенька. Ого параўняўся!

Андрэй. Ты што жабрак? (*да старца*)

Старац. Жабрак дзеткі.

Андрей. Чаго ты йдзеш у мястэчка, калі бачыш што яно спалена, хто цябе дарыць там будзе?

Старац Бачу дзеткі і вось іду паглядзець яшчэ на адзін панскі зьдзек над бедным народам. А вы стадка пасяцё пільнуеце каб не зачапала дваровага?

Сенька. Мы ад свайго пільнуем, а з дваровым, ліха яго бяры

Гаурык. Нехта з двара бяжыць,

Зоська. Бяжэце хлопцы пазганяйце каровы, а то сварыцца будуць няхай іх халера. (*хлопцы варушецца*)

Андрэй. Стойце! пабачым што яна нам зробіць, стойце й ня думайце варушыцца.

Баба. Здвара. (*голас чуваць з далёк*) Вы куды пусьцілі каровы, каб з вас духі пусьціла я вам зараз пакажу...

Андрэй. Няхай пакажа.

Сенька. Глядзі як агрэе калом, будзеш храбрыцца.

Ясь. А мы што, маўчаць будзем?

Баба. Вы што стаіце, каб вы вочы паўставулялі. Вы ня бачыце дзе каровы ходзяць?

Андрэй. Бачым, (*да хлапцоў*) праўда, хлопцы, ўсе бачым?

Усе. Бачым, бачым...

Баба. А, дык вы бачыце?!!

Андрэй. Так, мы бачым, але ты, цётка, мусіць нічога ня бачыш

Зоська. Каровы на поплаве ходзяць.

Баба Слабоду панадзявалі... стужкі, паперу чырвоную, Ух, вы абарванцы! Зараз як пачну рваць гэтыя вашыя слабоды, дык аж пыл пачне курэць. (*хоча сарваць*)

Андрэй. (*рашуча*) Не чапай!

Старац. Не чапай, галубка, іх, ідзі ты адсюль лепш.

Баба (*да старца*). А, ты яшчэ абазваўся, стары вядзьмак? Можа навучаеш іх? Глядзі-ж, зьявіся толькі каб падарыла, дык сабакамі заскую.

Старац Відаць страшнейшага сабакі за цябе няма, але-ж пара-б перастаць брахаць.

Баба Што гэта, я брашу, я брашу?

Старац Я табе скажу, бабка, ты падумай і скажы чаго ты зараз сюды прышла?

Баба Я ведаю чаго прышла.

Страц І я ведаю. Панскі загад выпаўняеш, сьцеражэш маёнтак, думаеш вернецца, падзякуе, ой не ўсьцеражэш! Усё-не ўсьцеражэш!

Баба Ну, добра, будзеце памятаць....(*пашла*)

Сенька О, ведзьма!..

Ясь Яна шалёная.

Старац Яна-б можа й ня была такой, але цемната яе Служыць паном, трымаюць яе пакуль ласка іх, прагоняць, будзе валачыцца як і я, ох, хо, хо...

Андрэй Садзіся, дзедка.

Зоська Садзіся, вось сюды, на пень.

Васілёк Але каму яна цяпер служыць будзе?

Старац А думаеце яна ведае, што робіцца на сьвеце?

Гаўрык Але мусіц ня ведае, яна мусіць думае гэта так, вайна, паны паўцякалі ў бежанцы ды скора вернуцца, а тут трасцу.

Ясь Яна мусіць дурная

Старац Я кажу дзеткі, цёмныя мы, бо каму ж, хацелася вучыць нас? Цёмнымі лепш папіхаць, ну й папіхалі як хацелі, але здаецца гэтага больш ня будзе.

Андрэй Не, ужо намі ня будуць так папіхаць.

Васілёк Мы ўсе вучымся.

Старац. Гэта добра, дзеткі. Цяпер я хочу адказаць на ваша запытаньне: ці паляк я, якой веры і хто я. Мой бацька калісь служыў у пана, (рускі пан быў,) фурманом, пасьля

гэты рускі пан абмяняў майго бацьку на другога фурмана з другім панам. Гэты пан паляк быў, па польску гаварыў, нававучыўся й бацька мой гаварыць па польску, нават каталіцкую веру прыняў, але вы думаеце яму лепей было, лягчэй, думаеце пан зважаў на гэта, не, дзеткі, пан быў панам. Тры гады паезьдзіў фурманом і ўсё. Панская ласка пастухом зрабіла майго бацьку. Урэшце пакінулі мы гэтага пана і пашлі да аднае старэнькае пані ў Ануфрова, жылі мы там шаснаццаць гадоў. Бацька ўжо занядужаў, пачаў пасьвіць каровы. За гады два перад сьмерцю пані гэта пасадзіла нас у Дзедавы-Вуглы, такая палянка, сенажаць вялікая прылягла й лясок. Вот тут, кажа, будзеце жыць, сьцерагчы лясок і сенажаць. Старэнькая хатка там стаяла й хлявушок. Нічога яна нам не плаціла, палянку дазволіла араць і сеяць там. Так і жылі больш дванаццаці гадкоў, сьцераглі панскае дабро. Усей, сямейкай хадзілі працаваць у двор. Кідаліся ва усе бакі каб зарабіць якую капейку. Хатку новую паставілі, усю будыніну падправілі, садок пасадзілі. Думалі шчасьліва пажывем, аж вышла, на няшчасьце наша, мы усё гэта робім.

Усе. Чаму? што сталася?

Старац А сталася тое, што заўсёды бывае за нашу працу, выгнаў пан мяне адтуль з усею. сямёю. Прыехаў сын тае пані, і стаў жыць у маёнтку. Паглядзеў ён на маю сядзібку й кажа: „пара выбірацца табе адсюль“ Як, пытаю выбірацца?

—А так, забірай манаткі свае ды йдзі, кажа. Кудыж іці, панок, пытаю—А мне якое дзела, адказвае пан, ідзі сабе куды хочаш. Жаль мяне агарнуў. Не, кажу, пане, я ня выйду адсюль Тут я працаваў, тут пакінуў сваё жыццё мой бацька, тут памру й я, дзеж я буду валачыцца? Ён яшчэ некалькі разоў прыказваў мне, каб выбраўся; а я застаўся. Аж ён, перад вайною нек было, быў я тады на плытох, да Стоўпцаў ганялі, выкінуў мяне з хаты і адусюль на двор, і будынька пачаў разьбіраць і нават хатку маю, якую я сам складаў.

Ясь Як! сам ён і разьбіраў?

Андрэй і Сенька — Але, сам будзе разьбіраць...

Старац. Дзеж ты бачаў, сынок каб, сам, парабком загадаў.

Васілёк А каб парабкі не паслухалі?

Старац Дык другіх наняў-бы, а гэтых прагнаў-бы.

Васілёк А каб і тыя не паслухалі, не пашлі яму служыць...

Гаўрык. Праўда, дзедка, што каб ня было парабкоў, то ня было б і паноў?.

Старац. Так, дзеткі, каб адзін не заграбаў усяго, то тады й другім хапіла-б каб, ня было паноў, то ня былоб і парабкоў.

Зоська. Тады-б і ваша хатка засталася на месцы?

Старац. Тады-б можа й я спакойна жыў.

Андрэй (*заварушыўшыся*) Трэба пазводзіць усіх паноў, да аднаго.

Сенька. І аднаго так сама.

Андрэй Ну, значыцца, усіх чыста, каб і духу іх ня было. Злосьць толькі бярэ, што малы.

Сенька Вырасьцем.

Старац Дык вось кінуўся я да яго й крычу:, пан, што робіш?. Пабойся бога! А ён і адказвае—вымятайся, ты, кажа, з сваім богам, ды скарэй толькі. Мая нябошчыцца жонка кажа, мусіць бог пакараў нас, дык маліся богу, каб яго, пана бог пакарў. А я плюнуў, бо сэрца кажа, што ніякі бог яго не пакарае, а мяне не памілуе і што спадзявацца няма на каго, як толькі на свае мазольныя рукі...

Васілёк (*перабівае*). Паглядзеце колькі чырвонармецаў ідзе (*усе рушацца*).

Усе Ай, яй яй..

Васілёк А там фурманак колькі...

Зоська. Сёньня ўжо мусіц, аж тры палкі ці роты прайшло, і знаў будуць казаць „на Варшаву“.

Старац. Чакалі ж мы іх, дзеткі, сядзібку маю зьвернуць і на тым самым зруйнованым месцы будзем будаваць новую хатку. *(здалёк чуваць голас)* „Даёш Варшаву“.

Усе Ура! ура-а, Даеш Варшаву. Урраа, *(накіроўваюцца усе ўбок чырронаармейцаў)*

Андрэй *(з заду йдучы)* Эх шкада, што малы!

Заслона.

............

Алесь Раніца.

# Дзьве думкі

Хоць я і ня многа на сьвеце пажыў,
Пачуўшы свабоду і гола,
Дзьве войстрыя думкі за тое нажыў,
Дзьве войстрыя думкі, як жала.
Нямала пакуты ўжо я перанёс
І быў ня раз голы і босы —
—Усюды з сабою дзьве думкі я нёс,
Дзьве войстрыя думкі, як косы.
Ня ўздумаю я, якім чынам ка мне
Думкі гэтыя ў галаў залезлі,
Але ўсе другія за іх мне таней,
Як дзерава супроць жалеза,
Расьліна, як цягне свае ў цемнаце
Ліеты да праменьняў ў ваконцы,
Вось гэтак я, хлопчык, калісьці хацеў
Штоб ў жыцьці сьвяціла мне сонца.
Ды доўга ня мог сабе шлях я знайсьці
(я часта з дарогі зьбіваўся),
Пакуль не ўдалося мне з кніжкай пайсьці
І з імі я добра спрзнаўся.
Другая жа думка і ў ночы і днём
Усё не дае мне пакою.
І сэрца маё загарыцца агнём,
Як быццам гатуецца к бою,
Як толькі на розум яна узьбяжыць,
Я бачу саўсім відавочна:
У ўсходняй, ў заходняй старонцы ляжыць
Рабочы прыгнечаны моцна.
І жмецца ў кулак у рабочых рука
І мускул бугрыцца тугі,
Каб моцным узмахам свайго кулака
Разьбіць і парваць ланцугі.
А думка бунтуе, ўздымае мой дух
За справу працоўных да працы,
Я ведаю:— моцны парвецца ланцуг,
Агнём загарацца палацы.
І у гэтай магутнай ліхой барацьбе
Ўвесь сьвет ўскалыхнуўшы да краю,
Мы новае шчасьце збудуем сабе,
Вялікае шчасьце... бяз краю. . . .

Ул. П—ка.

# Аб пролетарскай поэзіі. *)

Сучасная грамада дзеліцца на клясы. Гэта колектывы разьяднаныя многімі жыцьцёвымі супярэчнасьцямі, а дзеля гэтага організуюцца асобна, неабходнымі спосабамі, адзін супраць другога. Зразумела. што іх організацыйныя сродкі, г. з. ідэолёгіі, розныя, прама праціваленжны. Гэта датычыцца і поэзіі; у сьвеце клясавым поэзія так сама зьяўляецца клясавай: панскай, сялянскай, буржуазнай, пролетарскай.

Гэта ня знача, што трэба разумець нібы поэзія абараняе інтарэсы тае ці іншае клясы, так часамі бывае але параўнаўча рэдка, спэцыяльна ў політычнай поэзіі. Наогул клясавы характар поэзіі захованы куды глыбей Сутнасьць яе ў тым, што поэта стаіць на пункце погляду пэўнае клясы: глядзіць яе вачыма на акружаючае жыцьцё, мысьліць і адчувае так, як гэтай клясе па яе соцыяльнай прыродзе характэрна. Пад аўтарам-асабаю хаваецца аўтар—колектыў, аўтар-кляса; і поэзія—частка яе самасьвядомасьці.

Аўтар—асоба можа зусім ня мысьліць аб гэтым, можа быць зісум не падазравае гэтага. У самых творах няма прамых адзнак на іх клясавую крыніцу.

У клясавай грамадзе поэзія ня можа быць не клясавай. Але з гэтага не выцякае, што яна ў кожным даным выпадку належыць пэўнай клясе.

Напрыклад Дунін Марцінкевіч—шляхцюк, панок, часамі абараняў інтарэсы сялянства.

Такая поэзія зьмешана—клясавая. У наш час з дэмократычнай поэзіі можна зазначыць рабоча-сялянскую—А. Гурло, сялянска—інтэлігэнцкую—Я. Пушча.

Пролегарыяту-ж патрэбна чыста клясавая, пролетарская поэзія.

Характар пролетарскай поэзіі тлумачыцца асноўнымі жыцьцёвымі умовамі самой рабочай клясы: яго становішчам у прадпрыемстве, яго тыпам організацыі, яго гістарычным лёсам.

Пролетарыят ёсьць кляса працоўная, эксплёатуемая, бязупынна разьвіваючаяся. Гэта кляса, якая масамі знаходзіцца ў гарадах і якой характэрна таварыская форма супрацоўніцтва. Усе гэтыя рысы няўхільна адбіваюцца ў яе колектыў-

*) Друкуецца ў дыскусыйным парадку.

най сьвядомасьці—ў яе ідэолёгіі: значыцца і ў яго поэзіі. Але ня ўсе яны ў адколькавай меры вылучаюць, выдзяляюць пролетарскую поэзію, абасабляюць яе ад усякай іншай.

Праца, эксплёатацыя з боку пануючых клясаў, барацьба супраць іх, імкненьне да прогрэсу,—ці адрозніваюць гэтыя рысы пролетарыят ад бяднейшага сялянства, ад ніжэйшых слаёў працоўнай інтэлігэнцыі? Рачавіста не; яны ўласьцівы і гэтым групам, яны зьбліжаюць іх з рабочай клясай. Гэтыя групы раней чым пролетарыят, маглі стварыць сваю поэзію, і ў сваіх першых кроках на шляху поэтычнай творчасьці ён, натуральна прымыкае да іх. Тут яго патугі маюць яшчэ характар неазначана-клясавы: поэзія рэвалюцыйна дэмократычная.

Вось прыклад:

Як жыць толькі хочаш-натужыцца трэба!
Жыцьцё-гэта мора, яно барацьба,
Спрые змаганцу і сонца і неба,
Яму незнаёма нядужасьць, журба.

Тут акрамя асобы аўтара. А. Гурло няма нічога, што-б рабіла гэты верш нашым.

Вось другі прыклад А. Дудара „Шанхайскі шоўк" поэма Разьдзел 9-10 Гутарка арыштаванага кітайца з ангельцам. Вынік гутаркі:

Пагасьлі даўно папяросы,
а да раніцы ціхі гоман
Толькі дня залацісты росквіт
Не знашоў учарайшага Джона.

А чаму непаняць тлумачыць ня трэба.

Калі праз тыдзень ізноў
Джона паслалі на варту
Кінуў Джон у вакно
Цёплае слава „таварыш"

Кожнаму рабочаму будуць зразумолы гэтыя радкі чаму так хутка „Джон" назваў „Чы-Ванга" „Таварыш"

Гэта матывы сучаснасьці, гэта ўжо крок да клясава-выяўленай поэзіі.*

Што натуральна адрозьнівае пролетарыят ад іншых дэмократычных элемэнтаў?—гэта яго асобы тып працы і супрацоўніцтва.

Розьніца пачала адзначацца з тых часаў, калі зьявіўся пачатак улады і падуладнасьці, калі хтось загадваў а другі рабіў бяз права супярэчыць. Гэты час адзначаўся істотай „вышэйшай“ і „ніжэйшай“. Вось гэты час называўся аўтарытарным—хто загадваў быў аўтарытэт для падуладных.

Другі разрыў працоўнай прыроды чалавека—гэта спэцыялізацыя. У кожнага спэцыялістага свая задача, свой вопыт, свой асобны мір: селянін ведае сваё поле, саху, карову, хату каня. Каваль-свой інгрумэнт, майстэрню. і інш. Кожны ня можа ды й ня хоча знаць чужой справы, лепш уважлівей аднесьціся да свае.

Яшче больш адзначаецца гэты разрыў асобнасьцю гаспадарак, тут барацьба ўсіх супраць усіх за збыт і набыцьцё тавараў.

Тут вось наражаецца індвідуалізм. Чалавек пачынае працівопастаўляць сябе другім, у грамадзе ён не адчувае патрэбы, жыве сваімі абмяжаванымі інтарэсамі

Абодвы разрывы працоўнай прыроды праходзяць скрозь усю сьвядомасьць старых клясаў, знача-праз іх поэзію.

Поэзія эпохі аўтарытарнай-фэўдалізму-наскрозь прасякнута духам аўтарытарнасьці, напрыклад, „Слова аб палку ігараву“-тут дзейнасьць багоў, цароў гэрояў; псалмы Давіда—мальба і пакорнасьць, страх перад богам.

Прыклады індывідуялізму можна чытаць ва ўсіх да сучасных творах: Колас „Новая Зямля.“

У машынным прадпрыемстве ўпяршыню адбываецца зрастаньне разрываў працоўнай прыроды.

Тут рабочы ня толькі выконвае, а сочыць за машынай кантралюе. А часамі калі сапсавалася машына, неабходна праяўленьне інцыятывы, і рашучасьці, каб пусьціць у ход машыну.

—Вось асноўныя і тыповыя рысы організатарскай працы, з імі так сама зьвязана неабходнасьць ведаў, інтэлігентасьці, напружанай увагі—адзнака організатара.

Тут разм з мазгом працуюць рукі.

Праца на розных машынах па сваім організаторскім адзнакам вельмі схожа. Дзякуючы гэтаму падтрымоўваецца сувязь і ўзаемнае разуменьне. Пры сумеснай працы зьяўляецца магчымасьць сяброўскай дапамогі парадай і справай. Вось тут і складаецца тая таварыская форма супрацоўніцтва, на якой урэшце пролетарыят будуе свае організацыі.

Яна характарызуецца тым, што організатарская праца зьліта ў вадно з выканаўчай. Але, як організаратам гэтак і выканаўцам тут зьяўлецца к о л е к т ы ў.

Зародышы таварыскага супрацоўніцтва былі і раней і толькі ў наш час яны прымаюць ў пяршыню масавы характар і выступаюць як асноўны тып організацыі для цэлае клясы. Яно пашыраецца і паглыбляецца па меры разьвіцьця тэхнікі і па меры зьбіраньня пролетарскіх масаў у гарадох, па меры іх зьбіраньня ў буйных прадпрыемствах.

Гэта зьбіраньне пролетарыяту ў гарадох і на заводах мае вялікі уплыў на псыхіку рабочага. Яно дапамагае разуменьню таго, што ў працы, што ў барацьбе са стыхіямі і жыцьцём, асоба—толькі частачка агульнага ланцуга ўзатая асобна. Уласьціваe „я“ тут зводзіцца да сапраўдных разьмераў і належнаму месцу.

Пролетарская поэзія ў зачатку. Яна разаўецца таму, што рабочай клясе патрэбна поўнае самаўяўленьне, а поэзія—частка самўяўленьня.

Пролетарская поэзія на шляху разьвіцьця (Александровіч, Дудар). Калі яна вырасьце, дык пролетарыят ня будзе жыць ён адной. Ён законны ўладар усяе мінулае культуры, ўладар усяго лепшага што ён нойдзе ў поэзіі мінулых часоў,

Ён скарыстае так каб ня быць падуладным пануючаму духу ў мінулай творчасьці. Мінулае не павінна панаваць над сучасным.

Мёртвае павінна служыць жывому, а ня скоўваць яго.

Дзеля гэтага пролетарыяту патрэбна свая поэзія сапастаўленая шкоднай буржуазнай.

Ад галаслоўя я пазбаулюся прыкладамі: Парыжанка ў поўным сэнсе слова твор фрацускіх журналістаў і рамантыкаў. Яна ходзіць, адзяецца махае рукамі, як гэтага вымагаюць рамантыкі. Яна марыонэтка ў іх руках, пасыўна паддаецца іх уплывам і робіць тое, што ім пажадана. Напрыклад: у якой небудзь кнізе аўтар сваім сапсутым густам надумаў ідэал апісаў яго, што ён ходзіць з падскокам, што гэта дзяўчына калі есьць дык адтапыруе палец і г. д. дык праз нейкі час увесь парыж ходзіць з падскокам і г. д. Напрыклад на адпаведнасьці Байрана ляжыць той факт, што ў 30-х гадох мінулага ста-

годзьдзя ўвесь так званы культурны сьвет кішэў дэманічнымі натурамі, доўгавалосай, гледзячай з падылба бледнай моладзьдзю, якая кідала наўкола таемныя погляды.

А няўжо мала моладзі зьвіхнулася з сапраўднага шляху дзякуючы розным апавяданьням аб разбойніках—гэроях ды Нат Пінкертонах. І шмат яшча льга прывесьці фактаў і ўсе яны былі шкоднымі.

І вось каб ня быць над уплывам чужога, шкоднага уплыву поэтычнай сьвядомасьці, пролетарыяту трэба маець сваю поэтычную сьвядомасьць.

Гэта новая сьвядомасьць павінна резгарнуца і ахапіць усё жыцьцё, увесь сьвет творачым адзінствам. Пролетарыт на шляху гэтага дасягненьня. Рабочы—тварэц па свае істоце.

Чакаць у справе тварэньня пролетарскай поэзіі, дапамогі з боку, пролетарыяту ня трэба бо гэта вельмі і вельмі рэдка можа здарыцца, бо ня кожны можа зжыцца з колектыўным жыцьцём, ня кожны можа радавацца і цярпець тое, што рабочы.

Мы наш, мы новы мір збудуем, хто быў нічым, той стане ўсім!

oooooooooooo

Паулюк Волат.

# Пролетарскія матывы у беларускай літаратуры.*)

Наша беларуская літаратура дакастрычнікавае пары жыла галоўным чынам нацыянальна--адраджэнцкімі матывымі. Адбіваючы ў сваіх творах гаротную долю селяніна, нацыянальны і соцыяльны уціск, песьняры мелі на ўвазе выклікаць спачуваньне ў чытача, выхаваць з яго нацыянальна—сьвядомага грамадзяніна і, тых, хто захопіцца справай адраджэньня, справай нацыянальнага вызваленьня, організаваць дзеля барацьбы за гэта вызваленьне.

Такім чынам, соцыяльная місія літаратуры дакастрычнікавае эпохі заключалася: *у абуджэньні нацыянальнае сьвядомасьці у шырокіх колау грамадзянства і у організацыі іх на барацьбу за нацыянальна—соцыяльнае вызваленьне.*

*) Друкуецца ў дыскусыйным парадку.

Па поглядам нашых песьняроў гэтага часу на барацьбу з соцыяльна—нацыянальным прыгнечаньнем маглі ўстаць дзьве соцыяльныя групы: інтэлегенцыя, разумееца вясковая, і сялянства. Аб ролі пролетарыяту ні слова. Нібы ён не Беларусі не існаваў.

Так выглядае беларуская літаратура дакастрычнікавае пары.

„З цямні куткоў, ад цяжкіх сох" прыходзіць кастрычніковая рэволюцыя. Мяняюцца соцыяльна—экономічныя адносіны. Гегемоном жыцьця, кіраўнікам яго становіцца пролетарыят у хаўрусе з сялянствам. Рэволюцыя вызваляе працоўныя масы ня толькі ад соцыяльнага ўціску, але разам з тым прынесла з сабою і нацыянальнае вызваленьне.

Таго, чым жыла дагэтуль наша літаратура і на што плакалісь нашы песьняры—няволя й нядоля—няма. Цяпер есьць вольны беларускі народ, есьць радасьць парамогі.

Якія-ж заданьні сталі цяпер перад літаратурай.

Галоўных тры: павесьці барацьбу з старой спарахнеўшай ідэолёгіяй, а разам з тым адбіць у творчасьці ідэолёгію новага часу, ідэолёгію новага кіраунічага—пролетарыяту; адбіваючы ў мастацкіх вобразах падзеі рэволюцыі, павевы новага, захапіць, з'агітаваць гэтымі вобразамі тую частку жыхарства, якая яшчэ заставалася ў баку ад рэволюцыі, пасыўна глядзела на распачаўшаяся соцыялістычнае будаўніцтва, і накіраваць яе на шлях актыўнае дапамогі партыі і уладзе ў іх будаўніцтве; даць малюнкі жыцьця й працы пролетарыяту, паколькі гэтаму надта мала, яб сказаў зусім не удзелялася увагі ў літаратуры дакастрычнікавае пары—адным словам, момант патрабаваў, каб наша літаратура па зьместу стала пролетарскай.

Павольна, нібы раздумваючы, пераходзіць наша літаратура на новыя рэльсы, і няма чаму зьдзіўляцца: нашы старэйшыя песьняры ў большасьці сваёй—выхадцы з сялянства. Не маглі яны адразу успрыняць рэволюцыю, зразумець яе пролетарскую істоту.

Чакаць пролетарскіх матываў ў літаратуры мы павінны былі ад пісьменьнікаў, якія ўзгадаваліся ў рэволюцыі, альбо якія па свайму пахаджэньню блізка стаялі да пролетарыяту.

І першым адгукнуліс на падзеі рэволюцыі Цішка Гартны і Маладняк які ўзгадаваўся на гэтай рэволюцыі, на вачох якіх яна адбывалася і які прымау у ёй непасрэдны удзел

Але было-б памылкаю лічыць, што нашы старэйшыя пісьменьнікі, на творчасьці якіх узгадаваўся наш Маладняк, засталіся глухі рэвалюцыі, што рэвалюцыйны рыт дзеля іх быў зусім чужы

Так яшчэ у Я. Купалы, у яго апошнім зборніку „Безназоўнае" мы знаходзім спробы даць вобразы рэвалюцыйных падзей, імкненьне зразумець і ацаніць вынікі рэвалюцыі Праўда ўсе гэта выступае ў яго творчасьці надта смутна, не аформлена.

Прыблізна падобнае да пролетарскае поэзіі дае нам у сваёй творчасьці *Цішка Гартны.*

Гэта першы з нашых старэйшых песьняроў, які ўлавіў рытм новага жыцьця, гэта першы, хто гімнам сустрэў Кастрычнік, гэта пэршы хто, захліпаючыся ад радасьці перамогі, зазьвінеў гучным вершам, вытаючы рэволыцыю:

„Гары-ж, агонь Кастрычніка, гары!
Свой промень зыркі раздувай,
Няхай ён зьяе з краю ў край...
Хто сьпіць да гэтае пары—
Уставай"

Вялікую ролю ў барацьбе за вызваленьне адыграла чырвоная армія. Мы на свае вочы бачылі іх гэройства, іх аддансьць справе рэволюцыі. Праўда, іх шмат загінула, але ня гледзячы на гэта яны:

„І край свабодным захавалі,
І людзям волю зьбераглі"

Цішка Гартны захапляецца гэройствам Чырвонае Арміі і прысьвячае ёй некалькі вершаў.

У кастрычінку працоўныя перамаглі сваіх непасрэдных ворагаў. Гэтым справа рэволюцыі не канчаецца. Далей трэба перамагчы коснасьць людзкую, старыя драдыцыі, што ўваходзяць у глуб вякоў—трэба было зрабіць унутраную, ідэолёгічную рэволюцыю— Дзеля гэтага неабходна несьці культуру ў масы, трэба ўзброіць іх навукай Разумеючы гэта, Цішка Гартны зварочваецца да сяўцоў культуры.

„Уставай" сявец! ідзі гары
Зьдзярнелай нівы твае гоні,
Прышоў твой час—ужо пара
Пачаць сяўбу яшчэ сягодня.

Так адгукнуўся на падзеі рэволюцыі Цішка Гартны.

Цішка Гартны ня толькі адгукаецца на падзеі рэволюцыі Ён спрабуе адбіць у сваёй творчасьці пролетарскую ідэолёгію спрабуе стыпізаваць жыцьцё рабочых, праўда тае часткі, сярод якой ён выхаваўся — гэга дробных рамясьнікоў (гарбар каваль) і. г. д.

Адну з рысак пролетарскае ідэолёгіі Цішка Гартны выводзіць на перажываньнях беспрацоўнага. Беспрацоўны ня столькі пакутуе ад матар'яльнага незабясьпечаньня, колькі дрэнна сябе адчувае за адсутнасьцю працы, бо толькі праца задавальняе рабочага і без яе ён адчувае сябе лішнім, непатрэбным.

,,І ня тое, што работа
Голад прыпыняе,
Ва мне родзіць усе клапоты
Й нэдзе забірае,—
Не, ня тое, хопе з гэтым
Сіл ва мне зьмірыцца,
Але тое, што ля сьвету.
Нечым прыгадзіцца,

бо ў працы рабочы бачыць мэту жыцьця, ў працы ён знаходзіць надзею і веру ў лепшую будучыну.

,,Няма працы... Цяжка
Гэта мне цярпець бяз меры,
бо ў ёй зоў мой, мая мэта,
У ёй спадзеў і вера.

Цяжка будаваць соцыялістычную гаспадарку ў разбуранай краіне, з нізкай тэхнікай, але гэта не палохае рабочых.

Яны вераць у сваю моц, вераць, што агульнымі сіламі ў саюзе з сялянствам пролетарыят пабудуе новую хатку, навакол якой ,,рунь багатая разьляжа" у якой вольныя будуць між вольнымі.

„У гэнай хаце я ня мушу
Думкам нудным скутак даці,
Ў ёй я буду сваю душу
К волі вольнай прычашчаці

Такім чынам аптымізм, бадзёрасьць, вера ў будучыну, ў перамогу, жаданьне працы-вось чым азначаецца пролетарская ідэолёгія ў творчасьці Цішкі Гаршнага.

Апрача гэтага ў сваёй творчасьці Цішка Гартны дае нам малюнкі новага быту, часам на фоне змаганьня яго з старым. Гэта можна знайсьці ў рамане „Сокі Цаліны“ і ў некаторых іншых творах.

Такім чынам у творчасьці Цішкі Гартнага з пролетарскіх матываў можна заўважыць матывы зьвязаныя а) з рэволюцыйнымі падзеямі на Беларусі; б) з імкненьнем ацаніць рэволюцыю, як рэволюцыю пролетарскую; в) з імкненьнем адбіць у сваёй творчасьці пролетарскую ідэолёгію; г) з адабражэньнем жыцьця і быту рабочых, у большасьці рамясьнікоў—адзіначак.

Я наўмысьля ўжываю, „з імкненьнем“, бо ўсе гэтыя матывы толькі набліжаюць яго творчасьць да пролетарскай поэзіі, але-ж ні ў якім разе яго творчасьць ня можа зьяўляцца сапраўдным узорам пролетарскае творчасьці.

Больш выразна і марсыцкі-вытрымана выступаюць пролетарскія матывы ў творчасьці нашага, старэйшага з маладнякоўцаў, Міхася Чарота. Міхась Чарот, як кажа Ігнатоўскі, пясьняр рэволюцыі. Ён сам прымаў непасрэдны актыўны удзел у барацьбе і затым вобразы, зьвязаныя з рэволюцыйнымі падзеямі на Беларусі, яму ўдаюцца лепш, чым каму нібудзь з іншых пісьменьнікаў.

У яго творчасьці, асабліва ў поэме „Босыя на вогнішчы“, добра стыпізавана клясавае змаганьне на Беларусі.

У гэтай поэме галоўная ўвага адаецца пролетарыяту, які вядзе змаганьне за сваё вызваленьне.

Тут пролетарская ідэолёгія лепш прадстаўлена, чым у творчасьці Ц. Гартнага, прынамсі, яна выразьней выступае.

Пролетарыят у змаганьні з сваімі заклятымі ворагамі ня ведае жаласьці, бо ён добра разумее, што эксплёататары напружаць усе свае сілы, каб распачатаую барацьбу спыніць, заліць яе крывёю, ен добра памятуе навуку 9 студзеня 1905 году і ён ненавісьць да сваіх заклятых ворагаў пераносіць на ўсё, што імі ўзбудована, нават на культурныя каштоўнасьці, якія аддаюцца агню.

Цэркві палацы харомы—
Памяць мінулага з дымам!
Што не запалім мы—зломім!
Зьнізу наверх усё падымем.

Дзякуючы сваёй рашучасьці і організованасьці, дзякуючы таму, што яны:

„Ідуць **грамадою** бясконца,
Лікам шмат **і моцны іх дух**",

босыя перамаглі, зруйнавалі старое. Цяпер трэба на абломках старога ўзбудаваць будынак новага вольнага жыцьця.

Утварыць гэта новае, па думцы Міхася Чарота можа толькі колектыў—усе працоўныя разам. Толькі пры актыўным удзеле ўсяго савецкага грамадзянства, вядома якія успрыняў рэволюцыю, можна вырашыць пытаньні далейшае працы, організацыі і падняцьця разбуранае гаспадаркі, організацыі улады.

Пану даволі служыць—
Вось наша заданьне!
А як-жа? Кім будзем звацца?
Як-ж будзе вось гэта, ды тое?
Давайце ўсе *разам змагацца,*
Покуль ня зьнішчым старое.

Але-ж гэтаму новаму будаўніцтву перашкаджаюць перажыткі старога—старая ідэолёгія ў шырокіх колаў грамадзянства. Зьмяніць жа ідэолёгію ў адзін-два дні не магчыма, дзеля гэтага патрэбны годы. Такім чынам актыўных будаўнікоў мала. Але-ж няхай ня пужаецца гэтым нешматлікавы актыў старых барацьбітоў—будаўнікоў: на зьмену ім рыхтуе сябе моладзь, якая і дакончыць распачатую справу. Міхась Чарот верыць у гэту моладзь:

Толькі вы—Камуны дзеці,
Вас чакае лепшы лёс!
Хто тварэц жыцьця людзкога,
Волі, шчасьця, пекнаты?
Хто кладзе к жыцьцю дарогу?
Ведай, моладзь, гэта—Ты!

І гэтым самым выказвае думку ўсіх працоўных, якія ўскладаюць на моладзь вялікія надзеі ў справе будаваньня новае соцыялістычнае гаспадаркі—у справе будаваньня комуны.

Такім чынам у творчасьці Міхася Чарота мы знаходзім матывы зьвязаныя з клясавым змаганьнем на Беларусі. На фоне гэтага змаганьня пісьменьнік тыпізуе ідэолёгію пролетарыяту, адзначаючы тыя-ж рысы, што і Цішка Гартны, толькі ў больш яскравай, больш выразнай форме. Але разам з тым ён

дае і новае і гэтым самым робіць значны крок наперад у параўнаньні з Ц. Гартным. Гэта—а) зазначэньне, што працоўныя перамаглі дзякуючы іх згоднасьці, іх організаванасьці; дзякуючы таму, што працоўныя выступалі грамадою; б) высьвятленьне ролі колектыву ў справе соцыялістычнага будаўніцтва.

Матывы, зьвязаныя з сучасным будаўніцтвам, з жыцьцём пролетарыяту знаходзяць сабе месца і ў творчасьці нашых маладшых пісьменьнікаў, аб'яднаных у Маладняку, як напрыклад А. Александровіча, Дубоўка, А. Дудара, Вольнага і некаторых іншых, але аб іх гутарка будзе ў наступным нумары.

Наперад можна толькі сказаць, што ў іх творчасьці, як і ў творчасьці Міхася Чарота, пролетарскія матывы выступаюць больш выразна, чым у творчасьці усякіх іншых пісьменьнікау хват і Цішкі Гартнага.

▫ ▫ ▫

# Самагубства поэта С. Есеніна.

Нядаўна ў Ленінград прыехаў поэта Сяргей Есенін і супыні[ўся] ў гасьцініцы „Інтэрнацыянал“.

Раніцай 28-го сьнежня 1925 году С. Есенін ня выходзіў з сва[ёй] пакою. Адчуваючы штось няладнае адміністрацыя гасьцініцы вылама[ла] дзьверы. Есенін высеў на вяроўцы на трубе паравога ацяпленьня, [на] абоіх руках, вышэй далоняў, у згібе былі перарэзаны вены. Між [ін]шым у пакоі знайшлі запіску, пісаную Есеніным крывёю.

---

С. Есенін радзіўся ў Разанскай губэрні ў беднай сялянскай сям['і]. Ён зьяўляўся адным з выдатнейшых поэтаў імажыністых нашых дз[ён].

Творчасьць яго высока мастацкая, якая па прыгожасьці ня ме[ла] сабе роўнай

Жывучы ў буйных цэнтрах, ён захапляўся люмпэн-пролетарск[ім] жыцьцём, што й выявілася ў яго творчасьці і далёка аддзяліла яе [ад] сучасных пролетарскіх настрояў.

Ня гледзячы на гэта, цэлыя шэрагі маладых нарастаючых п[ісь]меньнікаў Расеі выгадаваліся на мастацкай поэзіі Есеніна, перайма[ю]ч[ы] ад яго вобразы і тэхніку выкладаньня.

З сьмерцю Есеніна Расейская літаратура страціла самага выдатна[га] поэту, які ў апошні час стаў пераходзіць на правільны, ня хворы, [як] раней, ідэолёгічны шлях, а разам з гэтым аднаго з сялянскіх поэт[аў], якіх ня бачыла яшчэ расейская літаратура.

Ал. Дуда

## У вянок Есеніну.

Ня дрыжы на асіне ліст,
Ты ня гойсай, вецер, на ўзвышшах...
Скажуць: памер поэт-скандаліст,
Скажуць, быў ён на сьвеце лішнім.
Запаліце жалобны агні—
Хай усюды яны загарацца:
Па поэце разанскім ніў
Беларуская песьня плача.

Анатолі Вольн[ы]

*...„И вновь вернусь я в отчий дом,*
*Чужою радостью утешусь,*
*В зеленый вечер под окном*
*На рукаве своем повешусь“.*

Рассыпаў па полю
Канеўнае срэбра...
Сумуйце, сумуйце...
А ўрашце—ня трэба!

Песьня здальнейшых
Сьпяваецца—гостра!
Мне ўсё зразумела
— І проста!...

# Паштовая скрынка.

**Курыльчыку, Прыбытоускаму, Запольскаму.** У прысланых матар'ялах ёсьць недахопы, зачым ён накіраван у Горацкі студыйны гурток Маладняка, дзе ён будзе разгледжан, з увагой на памылкі і недахопы.

**Лясуну, Міражу, Малевічу.** Прысланы матар'ял перададзен у Аршанскі студыйны гурток Маладняка дзеля абгавору і разгляду, дзе будуць высьветлены як адмоўныя, так і станоўчыя бакі твораў.

**Графянкову.** Адказ будзе дадзен поштай.

**Міхалю Небараку.** Прысланыя вершы слабаваты, старайцеся больш іх апрацоўваць, а каб набыць больш навыкаў у пісаньні, больш чытайце маладнякоўскія творы.

**Багушэуск, аутору „Успамінак"** Вынікі перадалі праз С. Малевіча.

**Дуброуна В Л. С.** Прышліце канец п'есы, без якога ня можна зрабіць ацэнку твору.

............

# ХРОНІКА.

Дзеля ахвату выхаваўчай працай моладзі, жадаючай працаваць у Маладняку і саміх маладнякоўцаў, Аршанская філія арганізавала 3 студыйныя гурткі Маладняка: ў Воршы, Горках, і Круглым.

Усім жадаючым працаваць у Маладняку неабходна зьвярнуцца ў адзін з гэтых гурткоў.

У Воршы трэба зьвярнуцца да т. Паскрэбка, Круглым—Барташэвічу, Горкі—Ганчарыку.

На пасяджэньні бюро філіі ад сьнежня 1925 г. уноў залічаны ў кандыдаты Маладняка тав. Д. Васілеўскі і П. Пруднік.

Здадзены ў друк і гэтымі днямі выйдзе першы зборнік Акруговага Краязнаўчага таварыства Аршаншчыны.

У хуткім часе выходзіць з друку другая частка „Аршанчыны„ дзе будуць зьмешчаны артыкулы членаў краязнаўчага таварыства па гісторыі Воршы і мястэчак Аршанскае акругі.

............

